**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 12 (728) 20 сакавіка 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by




**У Глыбокім адбылася выстава паляўнічых сабак.**
*Працяг тэмы на стар. 5.*
Фота Ул. Скрабатуна.

Гарадоцкі раён

# Замест “Дажынак” “Сняжынкі” ?

■ Чэслаў Якубовіч

**Як гром з яснага неба прагучала заява кіраўніка Беларусі на спецыяльнай нарадзе аб тым, што болей рэспубліканскіх “Дажынак” у ранейшым фармаце не будзе.**

З гэтай нагоды найбольшае расчараванне адчулі жыхары Гарадка, дзе яшчэ летась пачалі падрыхтоўку да фестывалю-ярмаркі працаўнікоў вёскі. Аднак перад гэтым віцэ-прэм’ер Рэспублікі Беларусь па пытаннях АПК Міхаіл Русы пабываў у райцэнтры і на пасяджэнні аргкамітэта заявіў, што будзе істотная аптымізацыя затрат на аб’екты фестывальнай сталіцы. Для гэтага горада ў сувязі з прынятым рашэннем зменшыцца фінансаванне і ў Гарадку, хутчэй усяго, пройдуць толькі абласныя “Дажынкі”. У такім фармаце першае абласное свята раней правялі ў Паставах, потым пасля перапынку ў Расонах. Меркавалася затым яго правесці ў Лёзне, але ганарыцца аграрыям Віцебшчыны ў той год не было чым і мерапрыемства набыло мясцовы характар. Зараз на гарадоцкай зямлі гадаюць, колькі сродкаў атрымаюць, бо напрыканцы лютага бюджэт “Дажынак-2014” звузіўся да 435 млрд. рублёў, з улікам паступлення сродкаў і з рэспубліканскага бюджэту. Цяпер сталіца наўрад ці будзе фінансаваць узвядзенне дарагакаштуючых ФАКа з басейнам і біятлоннай лыжаролернай трасай ў Гарадку. Пад пытаннем і фінансаванне абнаўлення карпусоў з інтэрнатам мясцовага аграрна-тэхнічнага каледжа, які раней выкраслілі з пераліку фестывальных аб’ектаў. У гэтым райцэнтры будуць лічыць грошы і акрамя цэнтральнай плошчы прыйдзецца эканоміць грошы на многіх аб’ектах сацкультбыту. Лепшых жа аграрыяў Беларусі адзначаць у пачатку 2015 года ў сталічным Палацы незалежнасці.

Ушацкі раён

# Адстрэльваўся па закону

■ Станіслаў Раманчук

**Стала ўжо дурной модай сярод многіх суайчыннікаў напівацца да бяспамяцтва на святы.**

Вось і ва Ушацкім раёне днямі сабралася такая кампанія, якая стала на падпітку глыбокай ноччу ездзіць па вёсцы Кублічы. З гэтай нагоды ў дзяжурную часць райаддзела міліцыі паступіла паведамленне, і туды паехаў разбіраць дзяжурны экіпаж мясцовай Дзяржаўтаінспекцыі, узмоцнены участковым інспектарам. Пасля гадзіны пошукаў міліцыянеры спынілі іншамарку, але п’яны вадзіцель “Audi” кінуўся наўцёк. Супрацоўнікі ДАІ пачалі праследванне п’янага парушальніка, а сцерагчы затрыманую машыну стаў участковы. Далей падзеі разгортваліся, як у крымінальным баевіку. З салона легкавушкі вылезлі два падпітыя хлопцы ва ўзросце 23 і 28 гадоў і павялі сябе занадта агрэсіўна супраць чалавека ў пагонах. Хуліганы сталі пагражаць расправай супрацоўніку міліцыі, паабяцалі адняць у яго табельны пісталет, калі ён запатрабаваў спыніць супрацьзаконныя паводзіны. Аднак разагрэтыя спіртным малодчыкі толькі ўвайшлі ў ярасць. Дзецюкі паспрабавалі пачаць бойку, паваліць афіцэра міліцыі на зямлю. У такой няпростай сітуацыі ў адпаведнасці са службовай інструкцыяй міліцыянер прымяніў зброю. Ён зрабіў некалькі папераджальных выстралаў у паветра. Калі гэта не спыніла мярзотнікаў, прыйшлося ўчастковаму стрэліць па аднаму з нападнікаў без пагрозы ягонаму жыццю. Абодва агрэсіўныя маладыя хлопцы затрыманыя, па гэтаму факту распачата крымінальная справа. За гвалт і пагрозу жыцця супрацоўніку праваахоўных органаў дэбашыры могуць надоўга адправіцца за краты.

Шаркоўшчынскі раён

# Каб не пагаслі экраны

■ Кастусь Александровіч

**Услед за масавым адключэннем праваднога радыёвяшчання ў сельскай мясцовасці неўзабаве і жыхары Прыдзвіння перэйдуць на прыём лічбавых тэлепраграм. Шаркоўшчынскі раён стане першым у вобласці, дзе пачне хутка ажыццяўляцца адпаведная Дзяржаўная праграма.**

З аўторка 1 красавіка мясцовая аўтаматызаваная радыётэлевізійная перадаючая станцыя спыніць трансляцыю аналавага тэлебачання. Дарэчы, акрамя жыхароў гэтага раёна эфірныя праграмы ў лічбавым адлюстраванні змогуць прымаць у зоне ўпэўненага сігналу двух суседніх сельсаветаў Глыбоцкага, Казлоўшчынскага Пастаўскага раёнаў, а таксама жыхары Новапагостскага на Міёршчыне.

Аднак, хоць часу засталося нямнога, там неабходна паклапаціцца людзям, каб на сваіх тэлеэкранах паглядзець у “лічбе” на 43 частотным канале агульнадаступныя бясплатныя тэлеканалы “Беларусь 1”, “Беларусь 2”, “Беларусь 3”, “АНТ”, “СТВ”, “РТР-Беларусь”, “НТБ-Беларусь” і “МІР”. Для гэтага неабходна мець у доме новы тэлевізар, альбо адпаведную лічбавую прыстаўку і яшчэ ўстанавіць дэцыметровую антэну з гарызантальнай палярызацыяй і накіраваць яе у бок Шаркоўшчыны. Як іншы выхад падключыцца да нацыянальнага аператара “Зала”, мець спутнікавую талерку, альбо гледзець ТБ з дапамогай Інтэрнэту. У іншым выпадку экран тэлевізара пагасне, а пераход на “лічбу” будзе працягвацца і ў іншых рэгіёнах.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 20.03.14 | | | | Пятніца 21.03.14 | | | | Субота 22.03.14 | | | | Нядзеля 23.03.14 | | | | Пн.24.03.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | +4 | +4 | +1 | +3 | +5 | +14 | +10 | +9 | +6 | +10 | +5 | +7 | +6 | +9 | +5 | +2 | +3 | +8 |
| Ціск | 736 | 734 | 742 | 746 | 746 | 745 | 742 | 741 | 738 | 741 | 743 | 741 | 737 | 737 | 740 | 742 | 742 | 742 | 742 |
| Вільготнасць | 93 | 90 | 66 | 88 | 92 | 92 | 50 | 70 | 74 | 87 | 44 | 75 | 92 | 91 | 47 | 70 | 88 | 87 | 58 |
| Вецер м/сек | 5 Ю | 7 С-З | 4 С | 4 Ю-В | 4 Ю | 6 Ю | 9 Ю-З | 6 Ю-З | 8 Ю-З | 3 З | 4 З | 4 Ю-В | 6 Ю | 3 З | 6 З | 3 З | 3 Ю | 3 Ю | 2 Ю-З |

# Аб самым надзённым

## ЗМЕНА ФАРМАТУ “ДАЖЫНАК” ЗАСВЕДЧЫЛА ПРА НАЯЎНАСЦЬ СУР’ЁЗНЫХ ПРАБЛЕМ У АЙЧЫННАЙ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Нашы вёскі пусцеюць, насельніцтва там вымірае, у цэлым па Беларусі страцілі амаль 1 мільён чалавек, а беларускія мяса і малако ўвесь час даражэюць. Відавочна, што з малочнай жывёлагадоўляй і не толькі ў нас справы ідуць не зусім добра, бо галіна не дае росту.**

На фоне вельмі вострага расійска-украінскага супрацьстаяння на грані вайны ўнутраныя беларускія працэсы часова нібыта адышлі на другі план. Сёлета да нас прыйшла даволі ранняя і анамальна цёплая вясна, што парадавала ўсіх. А вось тое, што з пачатку года інфляцыя склала ўжо 3,6 %, не магло не засмуціць, паколькі гадавы прагноз па росту цэн складае 11 %, а такімі тэмпамі вядома дзе будзе Беларусь напрыканцы снежня. Увогуле, як і раней, падстаў для аптымізму няма..

Краіна стартавала ў гэтым годзе з падзення валютнай выручкі ў студзені да 3,18 млрд. доляраў, меней было толькі 3 гады назад, калі Беларусь перажыла востры эканамічны крызіс. Далей болей, у наступным месяцы лютым айчынныя золатавалютныя рэзервы скараціліся яшчэ на 80 млн. долараў. Такі абвал быў бы яшчэ большым, але нас выратаваў рост цэн на золата на сусветным рынку. Многія кажуць, што праблем у беларускай эканоміцы толькі прыбаўляецца пасля абвалу расійскага рубля і рынку акцый РФ з-за падзей ва Украіне. Не трэба быць вялікім эканамістам, каб зразумець, што суседзі – рускія і ўкраінцы, стануць меней купляць беларускіх тавараў у такой сітуацыі.

У сваю чаргу грошай у нашай дзяржказне становіцца ўсё меней, і зусім невыпадкова нязменны беларускі лідар вырашыў змяніць фармат правядзення штогадовага фестываля-кірмаша працаўнікоў вёскі “Дажынкі”. Цэлых 17 год крочыў ён па рэгіёнах краіны, а цяпер паступіў загад ладзіць хлебаробскае свята ў раёнах на базе існуючых аграгарадкоў. На ўзроўні абласцей аграрыі будуць збірацца па чарзе ў райцэнтрах, за выключэннем гарадоў абласнога падпарадкавання (у нас у вобласці – гэта Лепель). Не стануць праводзіць абласныя “Дажынкі” таксама і ў Полацку з Оршай, бо яны іх прымалі раней.

Характэрна, што акрамя пасяджэння па гэтаму пытанню на прэзідэнцкім узроўні кіраўнік урада М. Мясніковіч правёў няпростае пасяджэнне рабочай групы па вывучэнню праблем у сельскай гаспадарцы Беларусі. Ёсць усе прыкметы таго, што ўслед за айчыннай прамысловасцю са стадыі стагнацыі і застою аграпрамысловы комплекс перайшоў у фазу падзення і рэцэсіі. Летась, па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, валавая вытворчасць сельскай гаспадаркі Беларусі знізілася на 6 %. Хоць тады з помпай правялі апошнія, як высвятляецца, рэспубліканскія “Дажынкі” ў Горках, а вось зерня атрымалі толькі 82,2 % у параўнанні з папярэднім 2012 годам.

Наш спрадвечны прадукт харчавання бульба таксама не парадавала, бо яе вытворчасць склала толькі 85,5 %. У мінулым годзе, увага, на беларускіх фермах (было пабудавана і адрэстаўрыравана 1500 новых жывёлагадоўчых памяшканняў) атрымалі 6,14 млн. тон малака. Гэта незайздросны паказчык, бо да ўзроўню 2012 года ён склаў 99,7 %, а экспарт харчавання стаў стратэгічнай задачай дзяржавы і да 2015 года нацэліліся на гэтым зарабіць да 7 млрд. долараў. Укладзеныя ў жывёлагадоўлю велізарныя сродкі пакуль не даюць патрэбнай аддачы.

Праграму адраджэння беларускай вёскі бясцам выканалі некалькі гадоў назад. Але як? Яшчэ за савецкім часам тагачасная БССР атрымоўвала малака 7,5 млн. тон, а цяпер атрымоўваецца на 1,5 млн. тон меней. Вядома, які цяпер фінансавы стан многіх айчынных гаспадарак. Не цякуць там малочныя рэкі, калгасы ледзь зводзяць канцы з канцамі, асабліва ў нас на Віцебшчыне. Прэм’ер-міністр прама казаў, што паўсюдна па краіне стан спраў у АПК бядотны, без пастаяннай дзяржпадтрымкі галіна не можа трымацца на плыву.

Нашы вёскі пусцеюць, насельніцтва там вымірае, у цэлым па Беларусі страцілі амаль 1 мільён чалавек, а беларускія мяса і малако ўвесь час даражэюць. Відавочна, што з малочнай жывёлагадоўляй і не толькі ў нас справы ідуць не зусім добра, бо галіна не дае росту. Напрыканцы лютага зусім невыпадкова цэны ў Беларусі на асобныя віды малака, кефіру, смятаны і тварагу былі павялічаны на 5-7 %. Неўзабаве мы даведаемся, якія меры прымаюцца на дзяржаўным узроўні, каб павысіць эфектыўнасць дзейнасці айчыннага АПК. Нельга ж, сапраўды, увесь час жыць на вёсцы толькі за кошт банкаўскіх крэдытаў у доўг. Даўгі ж з цягам часу прыйдзецца вяртаць, для гэтага, праўда, неабходна выпрацаваць новую стратэгію і мадэль развіцця айчыннай сельскай гаспадаркі і ўсёй эканомікі.

## Дзень за днём

**Большасць дзяржаў свету не прызналі вынікаў незаконнага сепаратысцкага рэферэндума ў Крыме. Беларускі знешні гандаль у студзені знізіўся ямшэ на 10 %. У краіне ўзмацнілі кантроль за своечасовым пералічэннем сродкаў у Фонд сацыяльнай абароны. Веснавая паводка сёлета ў Беларусі будзе малаактыўнай. У суботу 31 мая ў беларускіх школах прагучыць сёлета апошні ў гэтым навучальным годзе званок. МУС Беларусі пацвердзіў інфармацыю аб новай рыхтуемай амністыі да 70-годдзя вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Еўракамісар па энергетыцы ЕС Гюнтэр Этынгер заявіў, што Еўрасаюз дапаможа Украіне разлічыцца з Расіяй за значныя даўгі за газ падчас праўлення В. Януковіча.

**Украіна.** Генштаб УС краіны абверг хлусню У. Пуціна аб адсутнасці ў Крыме войск РФ акрамя яе флоту, туды Крэмль увёў часці спецназу з Чачні, Ульянаўска і з Краснадару.

**ЗША.** Экс-дзяржсакратар Хілары Клінтан параўнала дзеянні У. Пуціна ва Украіне з учынкамі Гітлера, а Барак Абама заявіў, што лідару РФ не ўдасца падмануць свет.

**Казахстан.** Не дачакаўся У. Пуцін падтрымкі па Украіне ад прэзідэнтаў Н. Назарбаева і А. Лукашэнкі, не зблізіліся краіны па найбольш адчувальных пазіцыях Мытнага саюза.

**Украіна.** Сваім уварваннем у Крым Расія ўцягнула свет у новую халодную вайну, Еўрасаюз актывізаваў працэс падпісання палітычнай дамовы аб асацыяцыі з Еўропай.

**Малайзія.** Самалёт Boeing-777 мясцовых авіяліній пацярпеў катастрофу і ўпаў ў Паўднёва-Кітайскае мора, на яго борце было 239 чалавек, большасць загінулых кітайцы.

**Сірыя.** Мясцовыя паўстанцы вызвалілі захопленых летась у снежні праваслаўных манашак і іх памочніц і абмянялі іх на сірыйскіх жанчын-зняволеных рэжымам Б. Асада.

**КНДР.** Краіна, якая з 1950 года знаходзіцца ў стане вайны, правяла 7 новых пускаў ракет малой дальнасці з рэактыўных сістэм залпавага агню па акваторыі Японскага мора.

**Расія.** І без падзей ва Украіне, як заявіў дырэктар Інстытута стратэгічнага аналізу Ігар Нікалаеў, рубль упаў бы з-за слабасці эканомікі і адтоку капіталу ў студзені 17 млрд. $.

**Германія.** Крымінальная паліцыя краіны прызнала, што ў 2012 годзе праводзіла навучанне байцоў украінскага спецпадраздзялення "Беркут", яно стралялa па людзях.

**Балівія.** Падчас традыцыйнага карнавалу ў краіне загінула больш 70 чалавек, у Бразіліі гэта свята азмрочыла забастоўка камунальшчыкаў, гарады завалілі тоны смецця, адходаў.

**Расія.** Па загаду Крамля толькі за крытычны антываенны артыкул у газеце "Ведомости" ледзь не звольнілі з працы выдатнага навукоўца, прафесара МГІМА Андрэя Зубава.

**Японія.** Самая пажылая жанчына свету Місао Акова адзначыла 116-ы дзень нараджэння, яна выгадавала трое дзяцей, ніколі не хварэла, любіла доўга паспаць і смачна паесці.

**Швейцарыя.** Сусветная арганізацыя аховы здароўя прапанавала ў 2 разы знізіць людзям спажыванне цукру, ён вядзе да атлусцення, карыесу зубоў, іншых хвароб, норма 6 лыжак.

**Расія.** Як заявіў вядомы журналіст Мацвей Ганапольскі, поўная нікчэмнасць расійскага ТВ стала яшчэ больш відавочнай з-за яго агалцелай хлусні пра падзеі ва Украіне.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Украінскі пасол у РБ Міхаіл Ежаль назваў нахабнай хлуснёй расійскіх улад і СМІ, што ва Украіне прыцясняецца расійская мова і што ўрад у Кіеве быццам нелегітымны.

**Салігорск.** ААТ "Беларуськалій", як пацвердзіў А. Лукашэнка, "не пойдзе на стварэнне ў Маскве ніякіх сумесных кампаній па продажу калійных угнаенняў", ёсць горкі вопыт.

**Мазыр.** У лютым ападкаў у рэгіёне выпала на трэць меней нормы, мала вады ў Прыпяці, недахоп вільгаці ў глебе дрэнна адаб'ецца на сельскай гаспадарцы.

**Мінск.** Міністр унутраных спраў РБ Ігар Шуневіч паведаміў аб сур'ёзных зменах Унутраных войск, павелічэнні на 10 % квот для дзяўчат пры паступленні ў ВНУ.

**Лунінец.** У 23-гадовага выкладчыка мясцовага каледжа, а потым у яго студэнта знайшлі сумесь для курэння з асабліва небяспечнымі псіхатропнымі рэчывамі, абое затрыманы.

**Мінск.** Да чэмпіянату свету па хакеі інвестар з Кіпра не зможа пабудаваць на праспекце Пераможцаў буйны зоркавы гатэль "Глорыя" з культурна-забаўляльным комплексам.

**Бабруйск.** Шок у гараджан выклікала жудаснае забойства 13-гадовага школьніка, як падазраюць, двумя падлеткамі па 15 гадоў, труп дзіця знайшлі ў рацэ Бярэзіна.

**Мінск.** На рабочым месцы раніцай па невядомых прычынах павесіўся начальнік каравула пажарнай часці-14 Заводскага райаддзела МНС, яго справай заняўся Следчы камітэт.

**Жодзіна.** Больш 36 тон нерасфасаванага маку канфіскавалі на складзе адной з прыватных фірм, на чорным рынку кошт гэтай партыі тавару мог скласці 150 мільярдаў рублёў.

**Астравец.** На ўчастку пагранічнага паста "Кемялішкі" пагранічнікі затрымалі расійскага грамадзяніна з Яраслаўля, які займаўся распаўсюджаннем наркотыкаў, збягаў у Літву.

**Мінск.** Пад раніцу з-за кароткага замыкання электраправодкі ў сталічным заапарку адбыўся пажар, пакуль пажарныя ўтаймавалі вогнішча,у агні загінулі 7 жывёл.

**Гомель.** Міліцыя затрымала і змясціла ў СІЗА 63-гадовага пенсіянера, які напіўся і паведаміў па тэлефоне аб быццам замініраваных магазінах і дамах горада.

**Бабруйск.** На моцным падпітку 45-гадовы мужчына забіў сваю 40-гадовую жонку і 15-гадовую дачку, іх трупы дома знайшоў сын і бацьку, які нічога не ўсведамляў.

**Брэст.** Жыхары прыгараднай вёскі Чэрні дабіліся адсялення цэнтра рэабілітацыі расійскіх наркаманаў, які збіраліся тут адкрыць,і прыехалі першыя 14 юнакоў і дзяўчат.

**Мінск.** За выяўлены допінг пажыццёва адлучылі ад спорту бронзавага прызёра чэмпіянату свету па цяжкай атлетыцы К. Шкуратаву, яшчэ аднаго атлета А. Макаранку – на 2 гады.

## У Беларусі павялічваюцца тарыфы на паслугі электрасувязі агульнага карыстання



■ **БЕЛТА**

**У Беларусі павялічваюцца тарыфы на паслугі электрасувязі агульнага карыстання для фізічных асоб, юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў. Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Мінэканомікі ад 11 САКАВІКА 2014 № 21 «Аб унясенні змяненняў у пастанову Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь ад 10 лістапада 2011г. № 184» апублікаваным 14 сакавіка на нацыянальным праваым партале, паведамляе БЕЛТА .**

Для насельніцтва павелічэнне гранічных максімальных тарыфаў складзе 19-22% у залежнасці ад паслугі. Так, месячная абанплата за тэлефон, які ўключаны ў асобную абаненцкую лінію індывідуальнага карыстання павялічваецца з Br8 310 да Br10 200. Абанплата за асноўны тэлефон калектыўнага карыстання вырасце з Br18 000 да Br22 100. Пачасовая плата за кожную дадатковую або няпоўную хвіліну злучэння вырасце з Br22,7 да Br27,4. Прадастаўленне міжгародній сувязі без дапамогі тэлефаніста павялічваецца з Br60,7 да Br66 за хвіліну, з дапамогай тэлефаніста – з Br91 да Br99 за хвіліну. Плата за карыстанне аканечным прыстасаваннем праваднога вяшчання вырасце з Br1 600 да Br1 750. Адпаведна павялічваецца і плата за карыстанне тэлефонамі, якія не пераведзеныя на пачасовую сістэму аплаты.

Для юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў павелічэнне гранічных максімальных тарыфаў складзе 8-17%. Так, абанплата за асноўны тэлефон вырасце з Br11 250 да Br13 200. Абанплата за асноўны тэлефон у арганізацыях сацыяльнай сферы, якія фінансуюцца з бюджэту, павялічыцца з Br5 600 да Br6 550. Абанплата за асноўны тэлефон, які ўключаны ва установа -вытворчую АТС у якасці злучальнай лініі, вырасце з Br25 500 да Br29 900. Пачасовая плата за хвіліну злучэння вырасце з Br38 да Br44. Міжгароднія званкі без паслуг тэлефаніста падаражэюць з Br69 да Br75 за хвіліну, з дапамогай тэлефаніста - з Br104 да Br113 за хвіліну.

Пры гэтым як для фізічных асоб, так і для юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў тарыфы на шэраг паслуг засталіся на ранейшым узроўні. Так, без зменаў засталася плата за паслугі доступу да сеткі Інтэрнэт у пунктах калектыўнага карыстання. Не змянілася і плата за прадастаўленне доступу да мясцовай тэлефоннай сеткі (падключэнне).

Пастанова ўступае ў сілу праз пяць дзён пасля яго афіцыйнага апублікавання.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Гендырэктар абутковай фірмы "Марко" М. Мартынаў паскардзіўся, што ўлады просяць грошай на спонсарскую дапамогу болей, чым удалося летась зарабіць прыбытку.

**Наваполацк.** Нафтаград, па дадзеных Белстата, застаўся самым брудным горадам краіны, за год тут у паветра было выкінута 54 тысячы тон шкодных рэчываў, за ім Мінск (25 тысяч).

**Віцебск.** Больш 100 мерапрыемстваў склалі праграму XXIII фестываля мастацтваў "Славянскі базар", які пройдзе з 10 па 14 ліпеня, першыя канцэрты будуць з 8 ліпеня.

**Бешанковічы.** У аграгарадку Ула ўрачыста адкрылі дзіцячы дом сямейнага тыпу, на двухпавярховы катэдж з усімі зручнасцямі дзяржава затраціла 1,3 мільярда рублёў.

**Віцебск.** З пачатку года сярэднямесячная зарплата працуючых на віцебшчыне засталася 420 тыс.,склала ў студзені 4,7 мільёна рублёў, спад усюды ў Беларусі.

**Верхнядзвінск.** Мясцовы хлебазавод давёў да 9 найменняў выпуск сушак дробнага памеру, пачаў іх рэалізацыю ў Смаленскай вобласці, на чарзе выпуск сушак у глазуры.

**Ушачы.** Мясцовы райбыткамбінат выключылі з дзяржрэестру юрыдычных асоб, стратны РКБА далучылі да ААТ "Полацкбыт", які закрыў днямі КПП у аграгарадку Веркуды.

**Паставы.** Падчас бытавой сваркі сужыцель збіў да смерці 50-гадовую гараджанку, яшчэ адна 48-гадовая пастаўчанка загінула вечарам падчас п'янкі ад нажа сабутэльніка.

**Полацк.** Усіх без выключэння пасажыраў цягніка па маршруту Полацк-Сімферопаль на канечным вакзале ў Крыме пільна абшукалі невядомыя з павязкамі дружыннікаў.

**Глыбокае.** Жыхары Залескага і Удзелаўскага сельсаветаў з 1 красавіка будуць глядзець тэлеперадачы ў лічбавым фармаце на 43 частотным канале з перадатчыка Шаркоўшчыны.

**Віцебск.** У гарбальніцы хуткай меддапамогі нарадзіўся сапраўдны асілак, хлопчык вагой 6 кг 100 грам, трэці па ліку ў сям'і Ганны і Уладзіміра Сімановічаў, дзіця назвалі Віктарам.

**Глыбокае.** Пасля адкрытага праслухоўвання журы зацвердзіла афіцыйны гімн горада на словы мясцовых аўтараў, паэта Алеся Жыгунова і музыку Браніслава Грамакоўскага.

**Віцебск.** У культурна-рэлігійным цэнтры мясцовай парафіі Езуса Міласэрнага з удзелам біскупа Алега Буткевіча прайшла вечарына ў падтрымку роднай беларускай мовы.

**Мёры.** Мясцовы ФК "Прыазер'е", чэмпіён вобласці па футболе вырашыў заявіцца гуляць у 2-й лізе чэмпіянату РБ, але на стадыёне ў Верхнядзвінску з-за канфлікту з уладамі.

**Віцебск.** У драмтэатры імя Я. Коласа адбылася прэм'ера першага мюзікла для дарослых "Дыліжанс" на аснове знакамітай навэлы Гі дэ Мапасана "Пышка".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Мацёры драпежнік больш не будзе палохаць вяскоўцаў


Забіты воўк у двары Глыбоцкай РАС БТПР.

■ Ул. Скрабатун

**Алег Герасімовіч, егер Падсвільскай паляўнічай дачы і Васіль Бажок, егер Празароцкай паляўнічай дачы, 17 сакавіка, каля а 9⁰⁰-й гадзіны, ўпалявалі ваўка ў раёне вёскі Чашкі Глыбоцкага раёна.**

Ваўка часта бачылі ў раёне весак Целяшы і Чашкі, вяскоўцы баяліся хадзіць у лес па грыбы, ды баяліся, каб не нарабіў шкоды свойскім жывёлам. Тэлефанавалі ва Установу "Глыбоцкая раённая арганізацыйная структура" Рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання "Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў" з просьбай аб дапамозе.

– Упаляваць ваўка не такая ўжо і лёгкая справа,– тлумачыць Анатоль Уладзіміравіч Козел, дырэктар Глыбоцкай РАС БТПР. – Гэтая справа можа расцягнуцца і на тыдзень, ці больш тэрмін.

– Трэба ў пэўным месцы пакласці прываду (мяса дзікіх жывёлаў), чакаць, сачыць. А тут нашыя егеры паехалі чарговы раз ў раён Чашкоў і ўбачылі свежыя сляды драпежніка не снезе. Воўк тут!

***– Адкуль з'явіліся ваўкі ў раёне Празарок? Мо з Бярэзінскага запаведніка?***

– Так адразу і не адкажаш,– тлумачыць Анатоль Уладзіміравіч. Арэал палявання ваўка да 50 кіламетраў. Не абавязкова з запаведніка, мог прыбегчы і з Полаччыны. Дарэчы, гэта не адзіны воўк якога тут назіралі, ёсць меркаванне, што іх тут да пяці асобнаў.

– Ёсць і мядзведзі! Аднаго не раз бачылі ва ўрочышчы Чорны Ручай.

***– Гэта значыць, Вы пацвярджаеце, што мядзведзь у Чорным Ручаі, не чуткі. Грыбнікі кажуць праўду! Нібыта той мядзвецць ад сустрэчы з грыбнікамі сам атрымлівае вялікі стрэс. Грыбнікі ж ад страху кідаюць вёдры з грыбамі, ляманцуюць, бягуць апрамеццю, а перапалоханы мядзведзь зносячы сухастой – у іншы бок...***

– Ну, гэта не адзіны мядзведзь! Мінулай восенню пры загонным паляванні ў Празароцкай паляўнічай дачы сабакі выгналі з кукурузнага поля – цэлую сям'ю мядзведзяў: самку, самца і двое мядзведзянятаў – чатыры разам.

Мядзведзі і рысі занесеныя ў Чырвоную кнігу Беларусі, паляваць на іх нельга.

***– А рысяў шмат?***

– Шмат! Можа і больш нормы. Яны наносяць пэўную шкоду пагалоўю дзікіх жывёлаў, асабліва казулям.

***– Атрымліваецца, што ў лес хадзіць па грыбы цяпер – небяспечна? Можа рысь з дрэва спрыгнуць на чалавека? Ці гэта казкі – рысь палюе з дрэваў?***

– Рысь, сапраўды, можа чакаць сваю здабычу на сцежках, дзе праходзіць міграцыя жывёлаў. Спрыгнуць з дрэва на дзіка. Былі выпадкі нападу і на чалавека, але гэта бывае ў месцах, дзе кармавая база для рыся вельмі слабая.

***– Дзякуй! Мяркую, нашым чытачам варта ведаць гэтыя акалічнасці збіраючыся ў лес па ягады ці грыбы.***

# Падпісаны ўказ аб дадатковых мерах дзяржпадтрымкі малога прадпрымальніцтва

**Указам № 126 ад 17 сакавіка Аляксандр Лукашэнка ўнёс дапаўненні і змены ва ўказ ад 21 мая 2009 года № 255 "Аб некаторых мерах дзяржаўнай падтрымкі малога прадпрымальніцтва".**

Паводле звестак прэс-службы Прэзідэнта, дакумент прадугледжвае прадастаўленне суб'ектам малога прадпрымальніцтва права на атрыманне дзяржаўнай фінансавай падтрымкі ў выглядзе кампенсацыі часткі расходаў, звязаных з удзелам у выставачна-кірмашовых мерапрыемствах, а таксама кампенсацыі расходаў на рэкламу арганізаваных мерапрыемстваў у сродках масавай інфармацыі пасля іх правядзення, а таксама магчымасць крэдытавання доўгатэрміновых (на тэрмін да сямі гадоў) інвестыцыйных праектаў, што рэалізуюцца суб'ектамі малога прадпрымальніцтва, за кошт сродкаў аблвыканкамаў, Мінскага гарвыканкама.

Прадугледжана карэкціроўка механізму прадастаўлення дзяржаўнай падтрымкі суб'ектам малога прадпрымальніцтва, што забяспечвае больш дакладны парадак яе прадастаўлення. У прыватнасці, удакладняецца парадак змянення працэнтнай стаўкі (прывязка да стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка) па размяшчэнні ў дэпазіты сродкаў мясцовых бюджэтаў, а таксама ставак па банкаўскіх крэдытах, пазыках і дагаворах лізінгу, заключаных у межах праграм дзяржаўнай падтрымкі прадпрымальніцтва.

Указ уваходзіць у сілу праз тры месяцы пасля афіцыйнага апублікавання.

*БелаПАН.*

# Банкіры прафінансавалі пакупку англамоўнага пераклада кнігі Казіміра Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі»

**«Вялікае мастацтва артылерыі» – легендарная кніга. На працягу двух стагоддзяў выданне з'яўлялася агульнаеўрапейскім падручнікам па артылерыі.**

По ёй вучыўся Канстанцін Цыялкоўскі. А НАСА лічыць яе аўтара, беларускага вайскоўца інжынера і артылерыста Казіміра Семяновіча заснавальнікам ракетабудавання.

Доўгі час у Беларусі не мелася ніводнага асобніка «Вялікага мастацтва артылерыі».

У 2012 годзе «БПБ-Ашчадбанк» выкупіў для Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі два прыжыццёвыя выданні кнігі: арыгінал на лацінскай мове (1650) і яе пераклад на французскую (1651). Летась у калекцыі НББ з'явіўся падарунак таварыства «BelABM» – нямецкамоўнае выданне 1767 года.

Цяпер, дзякуючы спонсарскай падтрымцы «БПБ-Ашчадбанк», калекцыя папоўнілася англамоўным выданнем «Вялікае мастацтва артылерыі», якое выйшла ў 1729 годзе.

У прадмове да гэтага выдання яе перакладчык Джордж Шэлвак прызнаваў: «Аўтарытэт Казіміра Семяновіча быў і да сённяшняга дня застаецца для ракетчыкаў і феерверкераў чымсьці святым».

*Мікіта Капкоў.*







# Да ЧС-2014 на ўездах у Мінск усталююць новыя пасты кантролю руху

Да чэмпіянату свету па хакеі на ўсіх уездах у Мінск усталююць восем стацыянарных пастоў кантролю хуткасці і маніторынгу транспартнага патоку. Першы такі пост ужо ўсталяваны на ўездзе з боку Нацыянальнага аэрапорта. Адна камера размешчана такім чынам, каб у кадр трапляў увесь транспартны паток, які перасякае мяжу горада.

У адрозненне ад фотафіксацыі новыя прылады здымаюць увесь паток на відэа, што адкрывае вялікія магчымасці маніторынгу, паведамілі ў ДАІ Мінска. Новыя сістэмы ў рэжыме онлайн адсочваюць хуткасны рэжым усіх машын і інтэнсіўнасць руху, правяраюць, ці не пратэрмінаваная страхоўка ў вадзіцеля, ці пройдзены тэхагляд, ці не лічыцца аўтамабіль ва ўгоне. Інфармацыя аб зафіксаваных камерай парушэннях перадаецца бліжэйшаму нараду ДАІ.

*telegraf.by*

# У Паставах пабудуюць яшчэ адзін касцёл

16 сакавіка падчас імшы ў пастаўскім касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Антонія Падуанскага біскуп Віцебскі Алег Буткевіч абвясціў вернікам сваё рашэнне аб арганізацыі новай парафіі ў Паставах і пабудове новага касцёла.

Новая святыня будзе мець тытул Езуса Міласэрнага, як і кафедральны касцёл у Віцебску.

Гісторыя цяперашняй парафіі ў Паставах узыходзіць да 1522 г., калі тут быў пабудаваны драўляны касцёл Маці Божай. Пасля Другой сусветнай вайны ў касцёле зрабілі склад, потым прадпрыемства. У маі 1988 г. святыню вярнулі і аднавілі супольнымі намаганнямі.

*catholic.by*

# Наступіў сезон вясновага палявання на гуся

■ **В.Е. Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Паляванне – гэта занятак для самых актыўных і фанатычных людзей. Яднанне з прыродай, выкід адрэналіну пры набліжэнні жаданай дзічыны, трапны стрэл, трафей. Што неабходна паляўнічаму – шматлікім людзям гэтага проста не зразумець.

Наступіў сезон вясновага палявання на гуся белалобага, гуся гуменіка, гуся шэрага, канадскай казаркі, а таксама на самца крыжанкі і самца вальдшнэпа, і цэлыя брыгады паляўнічых накіраваліся на палі, балоты з мэтай здабыць жаданыя трафеі. Аднак, як паказвае практыка, шматлікія аматары пастраляць па дзічыне не ведаюць правілаў і спосабаў палявання, за што строга караюцца кантралявальнымі органамі.

Напрыклад, вясновае паляванне на гуся селязня дазволена толькі з выкарыстаннем скрадка (засады). Дзейснае заканадаўства дае аднастайнае тлумачэнне паняцця "скрадок, засада", гэта збудаваная і выкарыстоўваемая паляўнічым хованка (будан, яма, бочка), якія забяспечваюць яго незаўважнае знаходжанне ў паляўнічых угоддзях у мэтах чакання паляўнічых жывёл. Для збудавання скрадка могуць быць скарыстаныя як штучныя (маскіровачныя сеткі, брызент, плёнка), так і натуральныя (сена, салома, галінкі) матэрыялы. Гэта можа быць будан, цалкам крыты ці адкрыты зверху, ці акоп, накрыты маскіровачнай сеткай. Галоўнае, каб ён забяспечваў маскіроўку паляўнічага не з двух бакоў. Не лічацца скрадком натуральныя насаджэнні, каналы, насыпы, іншыя падобныя элементы мясцовасці.

Да дазволеных паляўнічых прыладаў адносіцца гладкаствольная паляўнічая зброя з выкарыстаннем патронаў, падрыхтаваных дробам. Для вышуку здабытай дзічыны дапушчаецца выкарыстанне паляўнічых сабак: тэр'еры, таксы, лягавыя, спаніэлі, рэтрыверы, водныя сабакі.

Паляванне на гусей дазваляецца з другой суботы сакавіка па другую нядзелю траўня, на селязня крыжанкі, вальдшнэпа з першай суботы красавіка па другую нядзелю траўня.

Дазволены час для палявання на гуся ў светлы час сутак, акрамя перыяду з 11 да 18 гадзін, на селязня крыжанкі ў светлы час сутак, на вальдшнэпа з 18 да 22 гадзін.

Шматлікія маладыя, ды і больш дасведчаныя паляўнічыя, не лічаць патрэбным звярнуцца ў органы паляўнічага кантролю за кансультацыяй ці парадай. Аднак вынікам няправільных дзеянняў паляўнічага можа стаць адміністрацыйны пратакол і пакаранне ў выглядзе штрафу і нават пазбаўленне права на паляванне.

Так, 15 сакавіка 2014 года двое жыхароў г. Віцебска, знаходзячыся на паляванні на тэрыторы Пастаўскага раёна, вырашылі правесці паляванне з парушэннем правіл палявання, рухаючыся па полі з расчахлёнымі паляўнічымі стрэльбамі, праводзячы паляванне на гуся з падыходу, што з'яўляецца парушэннем. Вынік палявання – складзеныя інспектарамі адміністрацыйныя пратаколы і чаканні рашэння суда.

Па любых узніклых пытаннях звяртайцеся да супрацоўнікаў інспекцыі або да карыстальніка паляўнічых угоддзяў за растлумачэннем.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя заклікае паляўнічых выконваць заканадаўства, каб прыемныя адносіны з прыродай не ператварыліся ў непрыемныя адносіны з інспектарамі. Калі вы неабыякавыя да браканьерства, то пра ўсе парушэнні вы можаце паведаміць на тэлефон гарачай лініі: 8(02156) 2-86-70, мабільныя тэлефоны: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

**Удалага ўсім палявання!**

# Сканчэнне ацяпляльнага сезону

**А. Ю. Рацьковіч,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА.*

Ацяпляльны сезон 2013/2014 падыходзіць да канца. У апошні час тэмпература вонкавага паветра днём паднімаецца вышэй 0Сº, таму нагадваем усім спажыўцам цеплавой энергіі, што асабліва пры дадатных тэмпературах вонкавага паветра неабходна ўвесь час кантраляваць тэмпературу зваротнай сеткавай вады, каб яна адпавядала тэмпературы, якая указаная ў тэмпературным графіку на ацяпляльны перыяд 2013/2014г.

Таксама з мэтай аптымізацыі цеплазабеспячэння і эканомнага выкарыстання паліва і энергіі – у перыяд дадатных тэмператур вонкавага паветра, – ацяпленне лесвічных пляцовак жылых, грамадскіх, адміністрацыйных будынкаў неабходна адключаць.

Варта таксама нагадаць, што паводле ТКП 388-2012(02230/02030) "Правілы падрыхтоўкі і правядзення асенне-зімовага перыяду энергазабяспечваючымі арганізацыямі і спажыўцамі цеплавой энергіі", да 1 траўня бягучага года энергазабяспечваючыя арганізацыі і спажыўцы цеплавой энергіі на аснове аналізу функцыянавання ў асеннезімовым перыядзе сістэм цеплазабеспячэння і цеплавых сетак, які ўжо завяршаецца, павінны распрацоўваць планы арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да новага асенне-зімовага перыяду з улікам прадпісанняў органаў дзяржаўнага нагляду і кантролю.

Усе энергазабяспечваючыя арганізацыі ў тэрмін да 1 сакавіка бягучага года павінны былі прадставіць у мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы на ўзгадненне планы-графікі адключэння цеплакрыніц і цеплавых сетак для правядзення выпрабаванняў, рамонту і наладкі.

Узгодненыя планы-графікі адключэння цеплакрыніц і цеплавых сетак, энергазабяспечваючыя арганізацыі ў тэрмін да 15 красавіка бягучага года павінны давесці да ведама кіраўнікоў спажыўцоў цеплавой энергіі.

# Усе сабакі ў госці да нас

■ **Уладзімір Скрабатун**

**15 сакавіка на пляцоўцы перад Установай "Глыбоцкая раённая арганізацыйная структура" Рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання "Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў" адбылася міжраённая выстава паляўнічых сабак.**

На выставу з'ехаліся паляўнічыя разам са сваімі паляўнічымі сабакамі не толькі з Глыбоцкага раёна, але з бліжэйшых – Шаркоўшчынскага, Пастаўскага, Лепельскага і Докшыцкага раёнаў.



Абвестак пра гэтую выставу не было, ці проста аўтар гэтых радкоў іх не заўважыў, але, калі праходзіла выстава – брэх трох дзясяткаў сабак чуўся метраў за трыста, то гэта ўжо было цікаўна і прыцягвала увагу. Чаму столькі людзей адмыслова апранутых у маскіровачнае адзенне з сабакамі ў адначассе сабралася разам?

Пляцоўка перад Глыбоцкай РА БТПР была падзеленая на сектары, кожны сектар аддзялялі нацягнутыя шнуры з чырвонымі сцяжкамі. У кожным сектары паляўнічыя з рознымі пародамі сабак рабілі прабежкі са сваімі выхаванцамі. Трэба заўважыць, што выстава адбывалася, як прынята цяпер казаць – у розных намінацыях, і ўзроставых катэгорыях. Адны эксперты ўзважвалі сабак на шалях, іншыя прасілі гаспадара адкрыць пашчу свайму выхаванцу.

– Які сэнс гэтай выставы?– запытаў аўтар гэтых радкоў у спадара Мар'яна Адамовіча, які прыйшоў сюды са сваім Громам.

***– Паляўнічы сабака, як чалавек, мае пасведчанне аб нараджэнні, пашпарт, цэлы стос розных даведак аб стане здароўя, напрыклад, прышчэпках,–*** тлумачыць спадар Адамовіч.

***– Знайшлі ў Грома лішнюю пляму, і, ужо – чацьвёрка, а не пяцёрка.***

– А што, лішняя пляма перашкаджае ганяцца за дзікамі ці мядзведзямі?

***– Не перашкаджае! Аднак адпаведнасць усім крытэрыям ацэнкі пароды – прэстыж для любога гаспадара і паляўнічага.***



# На авіябазе ў Баранавічах пасадзяць яшчэ 20 самалётаў Расіі

**Да канца года на расійскай авіябазе на аэрадроме ў беларускіх Баранавічах будзе разгорнуты знішчальны авіяполк з 24 знішчальнікаў Су-27СМ3. Самалёты будуць забяспечваць супрацьпаветраную абарону і недатыкальнасць паветранай прасторы Саюзнай дзяржавы. Пра гэта паведаміў галоўнакамандуючы ВПС Расіі Віктар Бондараў.**

Зараз на аэрадроме знаходзіцца чатыры знішчальнікі Су-27СМ3, якія выконваюць задачы СПА Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі. "Па плане гэтага года туды саджаем яшчэ эскадрыллю, а да канца года на аэрадроме Баранавічы, дзе знаходзіцца наша авіябаза, будзе разгорнуты полк Су-27СМ3 у складзе дзвюх эскадрылляў - усяго 24 машыны", – сказаў галоўнакамандуючы, перадае ІТАР-ТАСС.

Як паведамляў Тэлеграф, 13 сакавіка шэсць знішчальнікаў Су-27 і тры ваеннатранспартныя самалёты ВПС РФ прызямліліся ў Бабруйску (Магілёўская вобласць). Акрамя таго, для ўзмацнення задзейнічанага ў праверцы кампанента Адзінай рэгіянальнай сістэмы СПА на аэрадром "Баранавічы" перадыслакаваны расійскі самалёт далёкага радыёлакацыйнага выяўлення (ДРЛВ) А-50.

# Плаціць у ФСЗН прадпрымальнікам прыйдзецца незалежна ад ажыццяўлення і вынікаў дзейнасці і не меней усталяванай мінімалкі

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 21.02.2014 № 87 "Пра ўнясенне зменаў і дадаткаў ва ўказы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па пытаннях дзяржаўнага сацыяльнага страхавання" унесены змены ў парадак выплаты абавязковых страхавых унёскаў індывідуальнымі прадпрымальнікамі.

З 1 студзеня 2014 года індывідуальныя прадпрымальнікі самастойна выплачваюць у Фонд сацабароны абавязковыя страхавыя ўнёскі незалежна ад таго, платнікамі якога падатку яны з'яўляюцца (падаходнага падатку, адзінага ці выкарыстоўваюць спрошчаную сістэму падаткаабкладання).

Сума ўнёскаў, якія трэба выплаціць у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, вылічаецца з вызначанага індывідуальным прадпрымальнікам прыбытку за мінулы год, пры гэтым сума ўнёскаў не павінна быць меней сумы, разлічанай зыходзячы з памераў мінімальнай зарплаты, усталяванай і праіндэксаванай у адпаведнасці з заканадаўствам (мінімальны плацёж у студзені, лютым месяцах – 581000 руб.)

**Іншымі словамі, страхавыя ўнёскі, пачынальна з плацяжоў за 2014 год, выплачваюцца незалежна ад ажыццяўлення і вынікаў прадпрымальніцкайдзейнасці і не меней патрабаванай вышэйўказанай мінімальнай сумы.**

Абавязковыя страхавыя ўнёскі індывідуальныя плацяцца штогод не пазней 1 сакавіка года, наступнага за справаздачным (выплата за 2014 год - да 1 сакавіка 2015 года).

Абавязковыя страхавыя ўнёскі індывідуальныя прадпрымальнікі не плацяць толькі за перыяды прыпынення імі сваёй дзейнасці ў выпадках, прадугледжаных заканадаўчымі актамі (напрыклад, перыяд ліквідацыі).

Льготы па выплаце засталіся ранейшымі: калі індывідуальны прадпрымальнік мае працоўныя адносіны; атрымлівае пенсію; мае права на дапаможнік па сыходзе за дзіцем да 3 гадоў; атрымлівае прафесійна-тэхнічную, сярэднюю спецыяльную, дзённую вышэйшую адукацыю ці з'яўляецца замежным грамадзянінам і асобай без грамадзянства, то пры жаданні ён выплачвае абавязковыя страхавыя ўнёскі на пенсійнае ці сацыяльнае страхаванне з даты падачы ў органы Фонду заявы пра жаданне ўдзельнічаць у прававадносінах па дзяржаўным сацыяльным страхаванні.

За няўчасную і няпоўную выплату абавязковых страхавых унёскаў накладаецца адміністрацыйнае спагнанне па артыкуле 11.54 КоАП у памеры 20% налічанай ці даналічанай сумы.

***Раённы аддзел Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.***

# У Віцебскай вобласці ад маразоў пацярпела не менш як 35 тысяч га азімых збожжавых і каля 25 тысяч га азімага рапсу

**У Віцебскай вобласці пацярпела не менш як 35 тысяч га азімых збожжавых і каля 25 тысяч га азімага рапсу. Аб гэтым на прэс-канферэнцыі 13 сакавіка паведаміў намеснік генеральнага дырэктара па навуцы РУП "Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па земляробстве" Эрома Урбан.**

Паводле яго слоў, гэтыя страты звязаны з тым, што пры маразах ніжэй за 20 градусаў па Цэльсіі снежнае покрыва ў некаторых раёнах вобласці складала ўсяго 2-4 см. З-за гэтага ў такіх раёнах, як Шаркоўшчынскі, Пастаўскі, часткова Докшыцкі, **Глыбоцкі** і Браслаўскі, "назіраюцца пасевы збожжавых з моцным пашкоджаннем надземнай масы раслін".

"Аднак канчаткова ўстанавіць узровень перазімоўкі пасеваў азімых збожжавых культур з указаннем плошчы захаваных, пашкоджаных ці загінулых пасеваў можна будзе не раней, чым на 10-12-ы дзень актыўнай вегетацыі раслін", – падкрэсліў Урбан. Аднаўленне вегетацыі азімых ва ўсіх абласцях рэспублікі адзначана ў другой і трэцяй дэкадзе лютага. Паводле слоў эксперта, тады можна будзе вырашыць, дзе і ў якой меры правесці рамонт, ушчыльненне ці перасеў культур.

Паводле яго слоў, пад ураджай 2014 года было пасеяна 1,4 млн. га азімых збожжавых на зерне і 152,3 тыс. га на зялёны корм. З пасеваў на збожжа пшаніца займае 534 тыс. га, трыцікале – 519, жыта – 335,3 і ячмень – 12,4 тыс. га. Азімы рапс быў пасеяны на плошчы 441,8 тыс. га. Усяго разам з яравымі плануецца засеяць 2 млн. 733 тыс. га збожжавых і зернебабовых культур.

*М. Носава, БелаПАН.*

# Чыстая страта беларускіх арганізацый вырасла на 50%

**За студзень стратнымі ў Беларусі былі 1594 арганізацыі, або 19,9% ад агульнай колькасці арганізацый, якія ўлічваюцца ў бягучым парадку. За студзень 2013 года такіх арганізацый налічвалася 1131 або 14,1%. Сума чыстай страты стратных арганізацый за студзень 2014 склала 2,1 трлн. рублёў, што на 47,5% больш, чым за студзень 2013 года.**

У сферы прамысловасці стратных прадпрыемстваў 29,4% (18,7% у студзені 2013 года), транспарту – 27,4% (21,2%) і гандлю, па рамонце аўтамабіляў, бытавых вырабаў і прадметаў асабістага карыстання – 22,4%



(16,5%), гасцініц і рэстаранаў – 19% (17%), аперацый з нерухомай маёмасцю, арэнды і прадастаўлення паслуг спажыўцам – 14,2% (10,4%), прадастаўлення камунальных, сацыяльных і персанальных паслуг – 13,4% (8,6%), ахове здароўя і прадастаўленні сацыяльных паслуг – 11% (9%), сельскай гаспадарцы – 10,6% (5,5%), фінансавай дзейнасці – 14,3% (0%).

Рэнтабельнасць продажаў беларускіх арганізацый за студзень 2014 года склала 5,8%, знізіўшыся ў параўнанні са студзенем 2013 на 0,8 працэнтных пункта, паведамілі ў Нацыянальным статыстычным камітэце.

За студзень выручка ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг арганізацый Беларусі ў бягучых цэнах склала 100,7 трлн рублёў, што на 2,7% больш, чым годам раней.

*telegraf.by*

# Урад Беларусі прыняў рашэнне ўвесці электронныя таварна-транспартныя і таварныя накладныя

**Урад Беларусі прыняў рашэнне ўвесці электронныя таварна-транспартныя і таварныя накладныя. Адпаведная пастанова № 202 ад 7 сакавіка 2014 года апублікаваная на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

"Электронныя таварна-транспартныя і таварныя накладныя ў выглядзе электронных дакументаў (далей — электронныя накладныя) лічацца створанымі, калі яны падпісаныя электронным лічбавым подпісам (ЭЛП) удзельнікаў (грузаадпраўшчык, грузаатрымальнік) электроннага абмену данымі (EDI) у частцы таварна-транспартных і таварных накладных (далей — электронны дакументаабарот), перададзеныя і атрыманыя праз аператара (аператараў) электроннага дакументаабароту (EDI-правайдар)", — гаворыцца ў дакуменце.

Дакументам вызначаныя абавязкі EDI-правайдараў, якія атрымалі ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку атэстат аператара электроннага дакументаабароту. Звесткі аб іх размяшчаюцца на сайце навукова-інжынернага РУП "Міжгаліновы навукова-тэхнічны цэнтр сістэм ідэнтыфікацыі і электронных дзелавых аперацый" НАН Беларусі.

Пастанова набывае моц з моманту апублікавання.

*Марына Носава, БелаПАН.*



# Дзве купюры Нацбанка Беларусі выводзяцца з абарачэння 1 красавіка

**Нацыянальны банк Беларусі нагадвае, што заканчваецца перыяд абмену банкнот наміналам Br10 і Br20 узору 2000 г., якія выводзяцца з абарачэння.**

Па 31 сакавіка ўключна абмяняць банкноты гэтых наміналаў яшчэ можна без абмежаванняў і без збірання камісійнага ўзнагароджання ў любой суме, роўнай Br50, у структурных падраздзяленнях Нацыянальнага банка Беларусі.

«З 1 красавіка 2014 банкноты наміналам Br10 і Br20 будуць выключаныя з абарачэння і лічыцца несапраўднымі», – папярэджваюць у Нацыянальным банку.

Зрэшты ў крамах гэтыя купюры не прымаюць ужо доўгі час.

*nn.by*

## Віншаванкі

Лідзіі Віктараўне Зяваліч!

Целуем твои руки, дорогая,
Морщинки и седую прядь волос
И низко просим у тебя
прощенья
За боль и грусть, что
каждый приноднёс
Живи подольше, человек
любимый,
А главное, конечно, не болей,
Поверь, что ты нужна
на свете
Для внуков и своих детей.

*Нявестка, дзеці, унукі, праўнукі.*

**Дарагую матулю і бабулю**

Таццяну Міленцьеўну Крупскую

**з юбілеем**!

Бывает много дней рожденья,
Но наступает юбилей,
Пусть он не будет огорченьем,
Живи как можно веселей!
Пусть этот день морщинок не прибавит,
А старые разгладит и сотрёт,
Здоровье укрепит, от горестей избавит,
И счастье в дом надолго принесёт.

*Дачка Ірына і яе сям'я.*



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 24 сакавіка



**06.00, 07.20,08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00,00.30** Новости.
**07.05,08.05** Деловаяжизнь.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Главный эфир.
**10.05, 12.10** Мелодрама **«Будет светлым день»**. 1-я и 2-я сер.
**11.55** «Славянский базар в Витебске-2014». Национальный отбор.
**14.00** Наши.
**14.15** Клуб редакторов.
**15.15, 18.40** Новости региона.
**15.25** «Славянский базар в Витебске-2014». Национальный отбор.
**15.30** **«Новые приключения неуловимых»**
**17.10** БеларусьLIFE.
**17.30** Белорусское времечко.
**18.35** «Славянский базар в Витебске-2014». Национальный отбор.
**19.20** Арена.
**19.40, 00.15** «Зона Х».
**19.55** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.45** **«Фурцева»** Заключит.серии.
**23.55** «Славянский базар в Витебске-2014». Национальный отбор.
**00.00** Актуальное интервью.
**00.50** День спорта.
**01.00** **«Апокалипсис»**



**06.00,08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «В наше время».
**12.05** «Они и мы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Доброго здоровьица!»
**13.55** «Модный приговор».
**15.00** «Наедине со всеми».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Понять. Простить».
**16.55** «Давайпоженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Позиция».
**22.05** Концерт «ARMIN ONLY INTENSE».
**23.25** **«Особенности национальной охоты в зимний период».**
**00.50-01.20** Ночн.новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективный сериал **«Тени прошлого»**
**10.05** Телебарометр.
**10.40** **«Люди Шпака»**
**11.55** Комедийный сериал **«Ласточкино гнездо»** (Украина).
**14.00** Юмористическая программа «Женская лига. Парни. Деньги. Любовь» (Россия).
**14.30** **«На перепутье»**
**16.25** «Перезагрузка».
**17.05** Приключенческий мультсериал **«Клуб Винкс. Школа волшебниц»**(Италия).
**17.55** Детективный сериал **«Тени прошлого»**
**18.55** **«Украсть у…»**.1-2-с.
**20.45** Тело человека.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** **«Универ. Новая общага»** (Россия).
**22.35** **«Реальные пацаны»**. 1-я и 2-я с.
**23.35** **«Люди Шпака»**
**00.30** «Перезагрузка».



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.45** «Большой завтрак».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.40** «Такова судьба».
**12.30** «Дальние родственники».
**12.50** «Большой город».
**13.30** «24 часа».
**13.50** СТВ представляет: «Звездный ринг. Новый сезон. Битва кавер-бэндов». «Cosa Nostra» против группы им. Мерилин Монро.
**14.50** «Другая страна». «Сделано в Китае».
**16.15** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Следаки».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Пища богов».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Кино»: **«ЧТО СКРЫВАЕТ ЛОЖЬ»**.
**22.00** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».



**7:00** ПраСвет
**7:25** Зона «Свабоды»
**8:00** «Людскія справы»
**8:30** Фітнес-шмітнес
**8:55** Два на два: Іна Соркіна і Ігар Кузьмініч: Рэпрэсіі супраць нязломных выкладчыкаў
**9:25** «Дакументаліст»
**10:15** Эксперт
**10:45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**11:15** **«Mad Men. Утрапёныя»**: 7 серыя
**12:00** ПраСвет
**12:30** Два на два (тэледыскусія): Іна Соркіна і Ігар Кузьмініч: Рэпрэсіі супраць нязломных выкладчыкаў
**13:00** Зона «Свабоды»
**13:35** «Людскія справы»
**14:05** Фітнес-шмітнес
**14:30** «Прыватны сусвет»
**15:55** **«Падстаноўка, Нью-Ёрк»**
**18:00** **«Mad Men. Утрапёныя»**: 7 серыя
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Пінгвінік Пік-Пок»
**19:00** Навіны
**19:10** Агляд медыяў
**19:20** Гарачы каментар
**19:30** Навіны
**19:50** Дэвайс
**20:10** Агляд падзеяў культуры
**20:15** Гарачы каментар
**20:35** Асабісты капітал
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Размова дня
**21:45** Відзьмо-невідзьмо
**22:10** **«Падстаноўка, Нью-Ёрк»**
**0:15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**1:55** Асабісты капітал
**2:15** Аб'ектыў
**2:40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**3:00** Відзьмо-невідзьмо



ПАНЯДЗЕЛАК, 24 сакавіка



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар **166 кругласутачна**. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – **"Вольнае Глыбокае".**

